ISSN 0132-5957

# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

12 • 2016
снежань



Малюнак Сяргея ВОЛКАВА.

# Хутка свята — Новы год! Асцярожней будзь, народ!
















**Малюе Алег ПАПОЎ**

## З Новым годам!



*Шаноўныя чытачы!*

Здаецца, яшчэ ўчора мы распачалі сяброўства са спрытнай і кемлівай Малпай, як сёння ўжо рыхтуемся сустракаць Новы год у кампаніі задзіры-Пеўня. Нам, вожыкаўцам, ёсць шмат чаго ўзгадаць, бо 2016 год прайшоў для часопіса насычана і плённа. У сакавіку мы запусцілі конкурс коміксаў «Пякучы аловак», прымеркаваны да 120-годдзя з дня нараджэння хроснага бацькі «Вожыка» – Кандрата Крапівы. На пачатку красавіка адкрылі ў Міністэрстве інфармацыі экспазіцыю графікі Алега Карповіча пад назвай «Беларусь. Мінск – Мір». Разам з самымі адданымі вожыкаўцамі адсвяткавалі 75-годдзе выдання: менавіта ў далёкім 1941-м з'явіўся прабацька часопіса – агітплакат «Раздавім фашысцкую гадзіну». Вядома ж, пазнаёміліся з новымі таленавітымі аўтарамі, наладзілі творчыя сустрэчы, адкрылі выставы карыкатур і правялі святочныя акцыі ў розных кутках Беларусі, пусцілі карэньчыкі ў сетцы інтэрнэту.

І мы верым, што наперадзе нас з вамі чакае год не менш цікавы і багаты на падзеі. Сардэчна віншуем кожнага з чытачоў з надыходзячымі святамі і жадаем у наступным годзе моцнага здароўя, цудоўнага настрою і пабольш светлых і шчаслівых дзён. Заставайцеся з «Вожыкам»!

**З найлепшымі пажаданнямі,**
**Вожыкаўцы.**

**Сяргей ПРЫЁМКА**

## АПАНЕНТЫ

*Байка*



Мядзведзі, ледзь не да згрызоты,
Паміж сабой дзялілі соты,
Разварушыўшы ў лесе борць –
Набіць трыбух хапіла б хоць.
Спалохаць канкурэнта спроба:
«Я – паважаная асоба!
Ды мне міністры ліжуць лапы!
Ты ж – недарэка і расцяпа.
Адкуль, з якога завуголля
Прыпёрся мне псаваць застолле?»
Наезд крутога візаві
Мядзведзя не спужаў, ані:
«Цябе я раздаўлю, чарвяк,
Бо мне сам Леў, лічы, сваяк.
Двух слоў на вушка дастаткова –
І ў пастку трапіш выпадкова».
***
Пакуль вышэйшае жуллё
Свой вызначала статус-кво,
Адэпты іншае маралі
Той мёд паціху расцягалі.

*г. Мінск.*



Малюнак Андрэя ЖАЛЯЗКІ.

**Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ**

## У пошуках сапраўднага Новага года



*Быль*

За тры гадзіны да бою навагодніх курантаў я пастукалася ў дзверы да сваёй сяброўкі, якую не бачыла амаль з самага заканчэння школы.

– Алеська! Як усё змянілася за гэты час у тваёй кватэры! Памятаю, каля ўваходу ў залу стаяла велізарная шафа з кнігамі. Далей быў круглы стол з накрухмаленай сурвэткай, а над ім на сцяне вісела гітара. А тэлевізар, які ўвесь час шыпеў ды на самым цікавым месцы мог паламацца? – я спынілася на парозе і пачала азірацца. – Дарэчы, а дзе твой тэлевізар? Які ж без яго Новы год?

– А няма ў мяне цяпер гэтай скрынкі, – паціснула плячыма сяброўка дзяцінства.

– Дзе ж ён?

– Яго з'елі! – загадкава адказала Алеська.

– Хто з'еў? – не зразумела я.

– Быццам не ведаеш гэтых нахабнікаў? – здзівілася яна. – Камп'ютар і мабільны тэлефон! Ням-ням... І няма «тэліка»! Яно ж як атрымліваецца: пакуль у інтэрнэце сяджу, мабільнік надрываецца. Пакуль па тэлефоне пагутару – у інтэрнэце навіны абнавіліся... Калі тут тэлевізар глядзець?

Я з разуменнем заківала. Алеська казала праўду. Прыйшоў канец эры тэлевізараў. Памаўчаўшы крыху, уздыхнула і сказала:

– А памятаеш, у дзяцінстве мы мульцік «Ну, пагоди!» увесь тыдзень чакалі. І «Калыханку» з Дзедам-Барадзедам глядзелі...

– Знайшла пра што шкадаваць! Тэлевізар! – узрушана прамовіла сяброўка. – У свой час гэта быў монстр больш страшны за тэлефон і камп'ютар! Менавіта ён калісьці з'еў нашу велізарную шафу з кнігамі! Памятаеш бразільскія серыялы, «Поле цудаў», «Смехапанараму» і перадачу «Мая сям'я»? Ужо толькі пасля іх наша шафа апусцела напалову: нешта ў макулатуру здалі, астатняе ў краму «Букініст» аднеслі. Ну, а калі рэаліці-шоу пачаліся, дык кнігі наогул зніклі з кватэры за непатрэбнасцю.

– Слухай, Алеська, а ўяві, праз некалькі дзесяцігоддзяў з'явіцца якая-небудзь новая «пачвара» ды з'есць камп'ютар і мабільны тэлефон, – я вырашыла пафантазіраваць.

Дзяўчына з любоўю прыціснула да сэрца свой новенькі смартфон і пакруціла галавой. І тут нашу размову перапыніў нейкі булькаючы гук.

– Хто там? – спалохана пракрычала Алеська.

– Ну, ты даеш, сяброўка! Гэта ж скайп! – засмяялася я.

– Сапраўды! Зусім мяне загаварыла, – схамянулася тая і паклала ноўтбук сабе на калені: «Прывітанне, мае дарагія! І вас са святамі! І вам шчасця і здароўя! А Новы год што, ужо наступіў? Калі? Пяць хвілін таму? Ну, вось дзякуй, што патэлефанавалі і паведамілі».

Алеська скончыла размову і штурхнула мяне локцем:

– Давай хутчэй віншавальныя смс-кі сябрам адпраўляць.

– А ў мяне да цябе іншая прапанова! – я вырашыла ўзяць ініцыятыву ў свае рукі. – Давай захопім бенгальскія агні і адправімся на вуліцу шукаць Дзеда Мароза! А потым пойдзем да мяне глядзець «Голубой огонёк», есці алівье і піць шампанскае. Такія традыцыі не варта парушаць з-за нейкіх там смс-ак!

Алеська засмяялася. І мы, як у дзяцінстве, кінуліся навыперадкі апранацца і шукаць сапраўдны Новы год.

*г. Брэст.*

## Анекдот пад Новы год

Як адрозніць школьніка ад студэнта? Сказаць: «Хутка Новы год!» Школьнік весела крыкне: «Ура!» Студэнт сумна прамовіць: «Сесія...»

* * *

– Што ты падарыў жонцы на Новы год?

– Тур у Тайланд.

– А яна табе?

– Паляцела.

* * *

З даклада: «У гэтым годзе план па абяцаннях выкананы і перавыкананы».

* * *

– Любы, я падрыхтавала табе шыкоўны навагодні падарунак! – з захапленнем кажа жонка мужу. – Зараз я яго апрану...

* * *

«Трэба крыху раней у краму прыехаць, пакуль мала народу, каб хутка ўсё купіць і ў чэргах не стаяць», – падумаў увесь горад.

* * *

Я не прыхільнік п' янства ў навагоднюю ноч... Я – ахвяра!




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.









Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Анекдот пад Новы год

* * *

На навагоднім сьвяце ўсе дзеці закахаліся ў Снягурку, а Бураціна – у ёлку.

* * *

– Пятро, кажуць, у цябе самы лянівы певень?

– Ой, і не гавары! Суседскія раніцай кукарэкаюць, а мой толькі галавой у знак згоды ківае.

* * *

– Чаму певень спявае ўсё жыццё?

– Бо ў яго шмат жонак і ніводнай цешчы.

* * *

– Любы! Падары мне на Новы год што-небудзь такое, каб я лёгенька так правай ножкай націснула, і р-р-раз – стрэлка ад 0 да 100 за тры секунды...

– Вагі падыдуць?

* * *

З размовы сяброў.

– Парай, што купіць жонцы на Новы год, – просіць першы.

– А ці не прасцей спытаць у яе самой? – адказвае той.

– Не, такіх грошай у мяне няма.

## Будучым раманістам

*Міні-фельетон*

Мабыць, шмат каму хоць раз у жыцці прыходзіла ў галаву думка: «А можа, мне напісаць раман?» Вось толькі пасля «творца» сутыкаецца з шэрагам праблем. З чаго пачаць, хто будзе выступаць у ролі герояў і самае галоўнае — як вызначыцца з жанрам будучага твора? І, як паказвае практыка, зусім нямногія могуць падабраць для гэтага неабходную камбінацыю.

Калі вы ўсё ж такі ў наступным годзе вырашыце стаць сапраўдным раманістам, то вось прыкладны план будучых шэдэўраў. Поспехаў вам!

**Раман-жыццяпіс:**
Язэп нарадзіўся.
Язэп жыў.
Язэп памёр.

**Бытавы раман:**
Язэп еў.
Язэп піў.
Язэп спаў.

**Рамантычная камедыя:**
Язэп хацеў пазнаёміцца з дзяўчынай.
Язэпу адмовілі.
Язэп закахаўся.

**Гістарычны раман:**
Язэп прыйшоў.
Язэп убачыў.
Язэп перамог.

**Вясковы раман:**
Язэп араў.
Язэп сеяў.
Язэп памёр.

**Раман-драма:**
Язэп закахаўся.
Язэп перадумаў.
Язэп памыліўся.

**Індыйскі раман:**
Язэп нарадзіўся.
Язэп прапаў.
Язэп знайшоўся.
Язэп ажаніўся.

**Дэтэктыўны раман:**
Язэп закурыў люльку.
Язэп задумаўся.
Язэп здагадаўся.

**Філасофская прытча пра жыццё:**
Язэп жыў.
Язэп памёр.
Хто такі Язэп?

**Раман-баявік:**
Язэп прайграў.
Язэп навучыўся.
Язэп перамог.

**Раман-трагедыя:**
Язэп цяжка нарадзіўся.
Язэп дрэнна жыў.
Язэп рана памёр.

**Ваенны раман:**
Язэп загадаў наступаць.
Язэп загадаў адыходзіць.
Язэп загадаў доўга жыць.

**Крымінальны раман:**
Язэп жыў.
Язэп не даваў жыць іншым.
Язэпа пакаралі.

**Фантастычны раман:**
Язэп трапіў у іншае вымярэнне.
Язэп дабіваецца поспехаў.
Язэп вяртаецца ў рэальнасць.

**Палітычны раман:**
Язэп жыў.
Язэп жывы.
Язэп будзе жыць.

**Касмічны раман:**
Язэп паляцеў.
Язэп яшчэ ляціць.
Язэп прыляцеў.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Малюнак Пятра КОЗІЧА.





Малюнак Сяргея ВОЛКАВА.



Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

## Вясёлы слоўнік

Заціраць — есці зацірку.
Круцель — гімнаст у цырку.
Мацёры — брыдкаслоў.
Пішчуха — оперная спявачка.
Смарчок — хворы на грып.
Стрыжань — цырульнік.

**Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




Сяброўскі шарж
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Міколу МАЛЯЎКУ — 75!

## Сур'ёзны падыход да гумару

Багатая на таленты Стаўбцоўшчына 75 гадоў таму падаравала нашай літаратуры пісьменніка з адметным паэтычным дарам — Міколу МАЛЯЎКУ. Ураджэнец вёскі Мікалаеўшчына скончыў філалагічны факультэт БДУ і некаторы час настаўнічаў у вясковых школах. Але хутка змяніў педагагічную ніву на журналісцкую: працаваў у нясвіжскай раённай газеце, на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, у часопісе «Вясёлка».

Ужо сваёй першай кнігай «Едуць маразы» сцвердзіў сябе як паэт-лірык. Аднак яшчэ падчас вучобы праявіў схільнасць да «вясёлага» жанру: напісаў гумарыстычную паэму «Ліверная каўбаса», якую занатоўвалі ў сшыткі і ведалі на памяць студэнты-філолагі БДУ шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Сёння Мікалай Аляксандравіч — прызнаны пісьменнік, лаўрэат нацыянальных літаратурных прэмій, аўтар шматлікіх паэтычных кніг для дарослых і дзяцей. Ствараючы «сур'ёзныя» вершы, ён не забываецца і пажартаваць — балазе, само жыццё дае для гэтага шмат нагод. Свае гумарыстычныя набыткі Мікола Маляўка аб'яднаў у новай кнізе «Нябесны фатограф» (2016), дзе «радкі асвечаны ўсмешкай і любоўю шчырай, у меру прыперчаны сатырай». Сардэчна віншуем юбіляра, зычым жыццёвага і творчага даўгалецця і, вядома ж, часцей усміхацца!

**Мікола МАЛЯЎКА**

## Сон не ў руку

На Камароўцы, каля фантана
Скралі каня — з аброццю, з сядлом.
Скралі так нечакана —
Не спалохаў нават і гром.

«Косю, косю», —
Заманілі, мабыць, аўсом.
І слядоў на асфальце не засталося,
Змыла неба дажджом.

Скралі прыгажуна ноччу,
І беспадстаўна вініць цыган:
Сведак няма — плюскоча
Толькі на плошчы фантан.

Можа, дзе-небудзь у плузе
Гоніць ужо баразну.
Я іржанне пачуў...
І прахапіўся, выплыў са сну.

Сон не ў руку, марныя страсці.
Але ж могуць на металалом
Дарагога каня сапраўды скрасці —
Як ёсць, з аброццю, з сядлом.

Цэняцца бронза і медзь,
Спакушаюць, што грэх таіць.
Трэба пайсці — паглядзець,
Ці на месцы той конь стаіць.



## «Ньютан»

У Загор'і, вёсачцы глыбіннай,
Жыў-быў дзед з душою галубінай.
Сумна жыў, адзін, без бабы,
І здароўем — слабы.
Раз касіў у садзе дзед траву,
Яблык спелы ўпаў яму на галаву.
Ад удару ўбачыў след —
І ўсміхнуўся малады сусед:
— Дзед Тамаш, ты — Ньютан наш!
Тутэйшы геній: сам адкрыў
Закон зямнога прыцягнення...
Пакацілася па хатах пагалоска —
Узняла высока дзеда вёска.
Акрыяў з такою доляй,
Не Тамаш ён болей:
Ньютан — кум,
Ньютан — сват.
Госць жаданы, нарасхват:
Ён адзін — на сто пятнаццаць хат.
Быццам і здароўем слабы,
Ды нядоўга жыў без бабы:
Ашчаслівіў удаву —
Косіць ёй цяпер траву.

Носіць дзед найменне новае,
Быццам званне ганаровае,
І людской увагай даражыць —
Весялей на свеце стала жыць.






**Міхась МІРАНОВІЧ**

## Выратуе смех

Быць сур'ёзным надта –
Гэта проста грэх,
Між людзей вясёлых
Дурні трапляліся.
Чалавецтва зможа
Выратавать смех.
Дыназаўры вымерлі,
Бо не ўсміхаліся!

## Карысныя парады

Прызнаемся:
Мы вельмі рады
Даваць
Карысныя парады.
І я даваў сябрам
Калісьці –
Былі самому
Без карысці!..

## Спачатку было слова

Спачатку
Было слова,
Як сказана
Не раз.
Са слоў жа
Паступова
На свет з'явіўся
Сказ.

## Няма месца

Згадзіцеся
З такою думкай вы,
Хоць не хацеў
Звяртацца я да сумнага:
Як не ідзе
Дурное з галавы,
Адкуль узяцца месцу
Для разумнага?

## Чаго не хапае?

Заўважыў мой сябрук
З адчаем:
Не можам
Долю зразумець!
То шчасця
Моцна не хапае,
То ўдачы –
Тое шчасце мець...

## За дурной галавой...

За дурной галавой
І нагам неспакой.
І няхай, ліха з ім,
Калі б толькі сваім!..

## Загадка экспромта

Мне, сябры,
Нядаўна ясна стала,
Калі сам я гэтым
Стаў займацца:
Каб экспромтам
Штось сказаць удала,
Трэба вельмі доўга
Рыхтавацца.

## Галоўнае, каб не міма

Яшчэ раз
Нагадаць не шкодзіць:
Як ні круці –
Жыццё праходзіць.
І вельмі крыўдна,
Што падчас
Яно праходзіць
Міма нас.

## Без лішніх слоў

Прыйшоў я
Да такіх высноў
(Лічу,
Што кожны падтрымае):
Каб гаварыць
Без лішніх слоў,
Нам лексікону
Не хапае.

*г. Віцебск.*




Малюнак Алега ГУЦОЛА.

**Абы да душы,
Пражывём
і ў шалашы!**






## Кароткі век, яскравы творчы след

*Літаратурная спадчына Максіма БАГДАНОВІЧА (1891–1917) надзвычай багатая і разнастайная: ён выступаў як паэт, празаік, перакладчык, крытык, публіцыст... Сёлета 9 снежня адзначаецца 125-годдзе з дня нараджэння класіка айчыннай літаратуры, аднаго са стваральнікаў сучаснай беларускай мовы.*

*Пісьменнік пайшоў з жыцця недаравальна рана, аднак за свой кароткі век паспеў зрабіць неверагодна многа. Асноўнай сваёй задачай (з якой паспяхова справіўся) лічыў узбагачэнне роднай літаратуры новымі тэмамі і формамі. Не цураўся Максім Багдановіч і гумарыстычнай нівы, што не дзіўна: паводле ўспамінаў родных і сяброў, жартаваць умеў і любіў. Так, бацька паэта Адам Ягоравіч пісаў пра сына наступнае: «Нрава был веселого, особенно в детстве и юности. Смешлив, эту черту особенно отмечаю. В детстве, бывало, прибежит в слезах, с плачем жалуясь на какую-нибудь обиду, но при передаче обиды, захлебываясь от плача и сбиваясь, вдруг, подметив какую-нибудь неловкость в передаче, от слез быстро переходит к смеху. Редко что-нибудь без смеха он мог передать, во всем находил смешную сторону. В классе смеялся, когда сам отвечал, смеялся, когда другие отвечали».*

*Дзіядор Дзябольскі, аднакласнік і лепшы сябра паэта, узгадваў: «У сярэдзіне снежня на калядныя канікулы прыязджаў з Масквы мой брат Ваня, тады студэнт-медык. Пасля вячэры яны з Максімам садзіліся за шахматы. Гэта была не звычайная ціхая, сканцэнтраваная гульня; увесь час чуліся воклічы і рогат. Ні ў таго, ні ў другога не было ні слыху, ні голасу, але яны ўвесь час спявалі, асабліва Максім». А аднакласнік Ціхан Мікалаевіч Годнеў у свой час адзначаў: «Выгляд у Максіма быў сур'ёзны і засяроджаны. Калі пачынаў гаварыць, твар яго зацвітаў усмешкай. Карэктны і ветлівы, ён умеў іранізаваць, у сваёй кампаніі жартаваў».*

*Лепшыя ўзоры тонкай пранікнёнай лірыкі паэта кранаюць чытача шчырасцю і вобразнасцю. У той жа час трапнасць і лёгкасць гумарыстычных вершаў выклікаюць усмешку. Прапануем вам паглядзець на класіка па-новаму – як на дасціпнага жартаўніка – з дапамогай паэтычнай падборкі, падрыхтаванай супрацоўнікамі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.*

### Вольныя думы

#### Уступ

Я думы, путамі не скутыя,
Тут перад вамі вываджу,
А проці ганення кажу:
Хваробы лечаць і атрутамі.

#### Гутарка з паненкамі

«Пабачце! Ластаўка малая
Для птушанят гняздо зрабіла
І клапатліва ўкруг лятае, –
Аж паглядзець прыемна-міла!»

«Вельмі шаноўныя паненкі!
Тут ёсць напэўна трохі цуду:
Ў гняздзечку міленькім і сценкі,
І дно яна зляпіла з бруду».

* * *

Вы кажаце мне, што душа у паэта,
Калі спараджае ён дзіўныя вершы,
Нябесным агнём абагрэта,
І ў час той між люду ён – першы...
Ах, дзякуй Вам, дзякуй на гэтай прамове;
Душа мая, пэўна, шчаслівай была бы,
Калі б я не ведаў, панове,
Што пекна спяваюць і жабы.

#### Крытыку

Дарэмна ловіце вы ў сетку матылька,
Каб лепей скрыдлы разглядзець:
Ударыўшы, памне іх сець,
І яркі пыл сатрэ няспрытная рука.

### З цыкла «Усмешкі»

#### Пан і мужык

Дзякуй, пане, бо пазнаў ад вас і я –
Не на трох кітах трымаецца зямля.
Згода, згода, бо здаецца неяк мне,
Што стаіць яна на нашай жа спіне.

* * *

Чытаю я журнал сучасны:
Кіпіць у ім прагрэсу ход!
Ён у пісьменнасці прэкраснай
Назад уйшоў на сотню год...
П-ч сантыменталізмам
Там нас уздумаў частаваць,
А пан К-а рамантызмам
Сімвалістычным дзіваваць.

Прывет ім! Хай налягуць двое,
І мо звярнецца зноў пара,
Калі чыталі «Громобоя»,
«Пастушки грусть» et cetera.

* * *

Чаму у нас акамянеласці
«Духоўнай стравою» завуць?
Іх ужываць – не хопіць смеласці!
Ў музеум іх няхай нясуць!

## Гутарка

«Ат, не дурыце галавы!»
«Ды, праўду ж, драма ёсць такая,
Ў каторай прыстаў станавы
Лірычным вершам прамаўляе».

## Крытыку

*Трыялет*

Чэліні статуй не рабіў,
А толькі статуэткі, –
Аднак, артыста шчыры быў.
Чэліні статуй не рабіў,
Ці чуеш, крытык едкі?
Дарма ты трыялет ганьбіў:
Чэліні статуй не рабіў,
А толькі статуэткі.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.

## Варона і чыж

*Байка*

Прыгода гэтая не так даўно была.
К чыжу (а сілы ён, як ведама, не мае)
Варона прыступае:
«Скажы, ці я падобна да арла?»
І бачыць чыж – з воронаю не жарты,
А ўласны хахалок чаго-небудзь ды варты.
«Зусім арол», – адказвае чыж
Вароне клятай з клёна.
«Ну, то ж бо то! Глядзі ж» –
З ласкаваю гразьбой пракаркала варона
І паляцела стуль далей.
Ўсё тое бачачы, здзівіўся верабей:
«Браток! Ці жа вачэй не маеш –
Арлом варону называеш?»
Засараміўшыся, чыж так пачаў казаць:
«Я гэтым не зрабіў благога.
Дай бог арла воронай не назваць;
Варону жа арлом – нічога».

* * *

На Лявонавай кашулі вышыты галубкі;
Я за тое вышывала, што цалуе губкі.

На Сямёнавай на кашулі вышыты лісточкі;
Я за тое вышывала, што цалуе вочкі.

На Сапронавай на кашулі вышыты падкоўкі;
Я за тое вышывала, што цалуе броўкі.



## Ад Дружка не ўцячэш!

*Гісторыйка*



Косцік даўно падбіваў Васіля на злачынства. Той доўга змагаўся з сабою, але, у рэшце рэшт, згадзіся перайсці на «цёмны бок».

Справа была, на першы погляд, даволі простая: ноччу зрабіць налёт на пчалярню глухаватага дзеда Антося, схапіць пару вулляў ды знікнуць у цемры. Вось толькі была адна перашкода – аб'ект пільнаваў невялічкі сабачка Дружок, што сядзеў на ланцугу пры будцы. Пакусаць ён нікога не мог, але ж шуму ад яго не абярэшся. Таму ўсё трэба было зрабіць хутка, пакуль Антось не зрэагаваў на сабачы брэх.

...Ноч абралі – самы цымус! Месяц зрэдку праглядваў скрозь аблокі, на кароткі час асвятляў дарогу. Хлопцы пракраліся да пчалярні, натыкаючыся адзін на аднаго, намацалі ў цемры дашчаную скрыню, схапілі ды кінуліся наўцёкі. Беглі, што было духу. Імпэту дадаваў брэх дзедавага Дружка, які чамусьці не сціхаў, быццам Косцік з Васілём зусім не аддаляліся ад месца крадзяжу.

Калі ногі ў хлапцоў пачалі падгінацца, яны нарэшце спыніліся. З-за аблокаў выглянуў месяц, і злодзеі ўбачылі тое, што прымусіла іх затрэсціся... ад рогату: Косцік моцна прыціскаў да грудзей будку. Ад яе цягнуўся ланцуг Дружка, які проста заходзіўся ад брэху...

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

## Мініяцюры

### Не раўня

Ён ні розумам, ні сілай
Не зраўняецца са мной.
Па фігуры – кволы, хілы,
Як нап'ецца – дык герой.

### Хвалько

Ён піша вершы пра наяд,
Ў Саюзе нават лічыцца.
Хоць чытачоў не надта шмат,
Ды між сяброў індычыцца.

### Глухаваты крытык

У прамоўцы, як заўжды,
Нібы ў ступе, шмат вады.
Крытыкуе ўсіх заўзята,
Сам не чуе – глухаваты...

### Падхалім

Сагнецца ён, як той пытальнік,
Калі звяртаецца начальнік.
Адыдзе кіраўнік убок –
Ізноў прамы, нібы шнурок.

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.

## Студзень

| ПН | АЎТ | СР | ЧЦ | ПТ | СБ | НД |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

## Люты

| ПН | АЎТ | СР | ЧЦ | ПТ | СБ | НД |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | | | | | |

## Сакавік

| ПН | АЎТ | СР | ЧЦ | ПТ | СБ | НД |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

## Красавік

| ПН | АЎТ | СР | ЧЦ | ПТ | СБ | НД |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

## Май

| ПН | АЎТ | СР | ЧЦ | ПТ | СБ | НД |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

## Чэрвень

| ПН | АЎТ | СР | ЧЦ | ПТ | СБ | НД |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | |

# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

2017

## Ліпень

| ПН | АЎТ | СР | ЧТ | ПЦ | СБ | НД |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | | | | | | |

## Жнівень

| ПН | АЎТ | СР | ЧЦ | ПТ | СБ | НД |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

## Верасень

| ПН | АЎТ | СР | ЧЦ | ПТ | СБ | НД |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | |

## Кастрычнік

| ПН | АЎТ | СР | ЧЦ | ПТ | СБ | НД |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

## Лістапад

| ПН | АЎТ | СР | ЧЦ | ПТ | СБ | НД |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | | | |

## Снежань

| ПН | АЎТ | СР | ЧЦ | ПТ | СБ | НД |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |




*Выхоўваць бадзёрасць і аптымізм*

*Калі мне ўпершыню трапіла ў рукі кніга Іны Браништэйн «Блаженства. Утро Кое-какера», адразу ўзгадаўся час нашай сумеснай з аўтарам працы завучамі па выхаваўчай рабоце ў школах Першамайскага раёна сталіцы. Адначасова Іна Якаўлеўна была адной з лепшых настаўніц гісторыі гэтага раёна. Прысвяціўшы ўсё жыццё педагагічнай дзейнасці, на заслужаным адпачынку яна знайшла сабе яшчэ адзін занятак па душы – літаратурную творчасць.*

*Вершы і проза аўтаркі, жыццё якой, дарэчы, было зусім не лёгкае, нясуць у сабе столькі бадзёрасці і аптымізму, што можна шчыра парадавацца за няўрымслівую і, безумоўна, таленавітую жанчыну, а таксама павучыцца ў яе ўменню знаходзіць пазітыў у самых звычайных рэчах. Не магу не адзначыць, што за вытрыманай формай гумарыстычных твораў Іны Браништэйн, іх знешняй прастатой і лёгкасцю хаваецца яшчэ і глыбокі змест. Упэўнены: кожны, хто пазнаёміцца з вершамі аўтаркі, абавязкова ўсміхнецца, а магчыма – паглядзіць на ўласнае жыццё пад іншым вуглом, пачне заўважаць прыгожае вакол сябе.*

**Эмануіл ІОФЕ,**
*г. Мінск.*

## Засцярога ад спакус

У маім шостым класе вучылася Таня В. – прыгожая, вясёлая, добразычлівая дзяўчынка. Толькі займацца не хацела – ёй больш падабалася гуляць з хлопцамі. Праўда, урокі наведвала рэгулярна.

Выхоўвала Таню бабуля, а мама між тым уладкоўвала асабістае жыццё на Данбасе. Упільнаваць гарэзлівую ўнучку было складана, таму я як класны кіраўнік па вечарах часта заходзіла да іх у госці, каб даведацца, дзе мая вучаніца.

Аднойчы вясной дзесьці а дзясятай гадзіне вечара пазваніла ў знаёмыя дзверы. Адчыніла бабуля.

– Алена Уладзіміраўна, дзе Танечка?

– Пайшла з хлопцамі.

– З якімі?

– А хто іх ведае.

– Як жа вы Танечку адпусцілі? Ды гэтак позна?

– Не хвалюйцеся, Іна Якаўлеўна! Я ўсё прадугледзела: надзела на Таню дзве пары калготак!..

* * *

Што за асалода – у ложку ляжаць
І нанач цікавую кнігу гартаць!
Здаецца, чытаў жа не раз тую прозу,
Ды ўсё табе нова – дзякуй склерозу.

Што за асалода (і лёсу хвала):
Згубіла ключы, а пасля іх знайшла.
І шчасце нахлыне вясновай паводкай
З кожнай такой нечаканай знаходкай.

Што за асалода – аж хочацца жыць! –
Калі ні рука, ні нага не баліць.
Ты можаш тады гэты факт зразумець,
Як толькі пачне табе штосьці смылець.

Для радасці ёсць не адна нагода,
Калі ў простых рэчах шукаць асалоду.






Малюнак Андрэя ЖАЛЯЗКІ.

## Як ні кліч…

У Кандрата Крапівы ёсць байка «Заява», якая заканчваецца наступнымі радкамі:

*Аднак жа, як свінню ні кліч,*
*Яе заўсёды выдасць лыч!*

Згадзіцеся, гэтыя словы трапна характарызуюць усіх ашуканцаў, якія хочуць выдаць сябе за некага іншага.

Расіянін, які спрабаваў перавезці праз пункт пропуску *«Берастравіца»* дзевяць кілаграмаў жвіру для акварыума, выкарыстаў гэты падыход. Пры дэталёвым аглядзе (а пазней — экспертызе) пагранічнікі выявілі, што ў пакетах на самай справе знаходзіліся… несартаваныя дыяменты. Агульны кошт іх склаў больш за 900 тысяч рублёў.

Незвычайны «жвір» канфіскавалі, а вадзіцелю далі штраф. Трэба было яму перад гэтай авантурай пачытаць твор нашага байкапісца, можа, зрабіў бы правільныя высновы і застаўся пры сваёй маёмасці і грашах.




## Залаты напой

Пра нацэнку ў кафэ і рэстаранах ведаюць усе. І гэта зразумела: хочаш адпачываць з камфортам — заплаці болей.

У адным міні-кафэ ў Віцебску прадавалі каньяк беларускай вытворчасці з нацэнкай ажно больш за васемсот працэнтаў, а гарэлку — за семдзесят працэнтаў. Пры гэтым па заканадаўстве яна не можа перавышаць шэсцьдзясят.

За такія махінацыі прадпрыемства было аштрафавана на 416 рублёў. Уладальніку міні-кафэ за правапарушэнне давядзецца заплаціць 21 рубель. Як лічыце, добрае пакаранне за «залатыя» напоі?

## Перанерваваўся

Кожны чалавек па-свойму рэагуе на стрэсавыя сітуацыі і мае ўласны метад заспакаення.

Напрыклад, адзін мінчанін выпадкова зачапіў сваёй машынай восем аўто, якія былі прыпаркаваныя ўздоўж сталічнай вуліцы. Калі яго затрымалі міліцыянеры, хлопец быў моцна п'яны. Але ён не разгубіўся і пачаў апраўдвацца. Маўляў, так расхваляваўся з-за аварыі, што вырашыў супакоіць нервы з дапамогай алкаголю.

Хто ведае, магчыма, яму б і паверылі. Толькі сведкі здарэння расказалі, што вадзіцель ужо быў пад мухай, калі выходзіў з аўтамабіля, і імкнуўся пакінуць месца здарэння. Сёлета, дарэчы, яго другі раз затрымалі за кіраванне ў нецвярозым стане.

Вядзецца следства. Можа, хоць пасля такога хлопец зразумее: гарэлка псуе нервы, а не супакойвае.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.






## Маладосць як яна ёсць

Адкружыла маладосць,
Пабыла ў мяне, як госць.
Ды яшчэ імкнуся ў танцы
З завірухай абдымацца.
Тупну правай, тупну левай
З беласнежнай каралевай.
Папракне хто за нясталасць –
Я ж страсу са скроняў старасць.

**Канстанцін СТАНКЕВІЧ,**
*г. Баранавічы.*

## Закон прыроды

Нейк у рыбным магазіне
Роўна, шчыльна на вітрыне
Селядцы пластом ляжалі
І паціху размаўлялі.
А пра што? Пра тое-сёе,
Пра жыццё сваё былое
У далёкім сінім моры...
Вось адзін з іх і гаворыць:
– Паглядзіце, побач з намі
Селядцы ляжаць радамі,
Як і мы, ды без галоў.
У мяне ад злосці кроў
Аж кіпіць: на іх цана
Большая ледзь не ўдвая!
Праўда ёсць? Напэўна, не:
Безгаловыя ў цане!
– Ф'ю-ю! – чырвоны свіснуў
рак, –
У людзей таксама так.
Я б сказаў з такой нагоды:
Гэта ўжо закон прыроды!

**Сцяпан ЦАРЫК,**
*г. Брэст.*

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## Каго баіцца мароз?

Пакрыты дрэвы інеем –
Разгневаўся мароз.
Каліна лісце скінула,
Чуб з клёна вецер строс.

Бліжэй да хаты шчэмяцца
Сінічкі, вераб'і.
Насыплю зараз семачак –
Шкада мне вельмі іх.

Частуйцеся, маленькія,
У крыўду вас не дам!
Мароз заморгаў вейкамі –
І пацякла вада,

Бо выглянула сонейка,
Аснова ўсіх асноў.
Пяшчотнае і добрае,
Як матчына любоў.

*г. Барысаў.*

Каб было з кім танчыць
і потым дзетак няньчыць!






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.

## Паліглот

Як Фядот прапусціць чарку –
Пачынае з жонкай сварку.
Іх, забіўшыся ў куток,
Слухае заўжды сынок.
І цяпер ён, двухгадовы,
Вывучыў такія словы,
Што ў дарослага, як кажуць,
Ажно вушы могуць звянуць.
Не губляецца Фядот,
Кажа: «Сын мой – паліглот!»

**Мікалай ГЛЕБ,**
*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*



## Арангутан і снег

*Байка*

Убачыў снег Арангутан,
Стаіць, нібыта істукан:
«Якая мокрая брыдота!
Кранацца нават неахвота.
Не бачу ў ім зусім карысці,
Хіба што толькі ногі чысціць.
Не шчыльны – можна праваліцца...
На што, скажыце, тут дзівіцца?!»
І зморшчыў нос Арангутан,
Нібы яснавяльможны пан.
Што ж, да зімы ён не прывычны,
Таму такі катэгарычны.
Крануў яго Мядзведзь па карку
(Суседам быў у заапарку):
«Хоць павучаць я не люблю,
Ды ведай: грэе снег зямлю.
Так ахінае пакрываламі,
Каб зерне ў полі не прапала.
Відаць, ты зразумець не зможаш,
Ды белы снег – такі прыгожы!»

* * *

Перш чым сварыцца і злавацца,
У справе трэба разабрацца.

**Таццяна ЖОГАЛЬ,**
*г. Пінск.*




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

**Андрэй СІДАРЭЙКА**

## Марыць з Дзедам Марозам



*Навагодняя гісторыйка*

На календары красавалася трыццатага снежня. Мама была на працы, тата глядзеў футбольны матч, а я чакала Дзеда Мароза і Снягурку. Нарэшце пачуўся званок. Тата неахвотна адарваўся ад тэлевізара і адчыніў дзверы. На парозе стаяў казачны госць.

– Унучка захварэла, ды і ў мяне тэмпература. Пакуль дайшоў да вас, поўныя валёнкі снегу набраў, – стаў апраўдвацца чараўнік.

– Ведаю я вашы хваробы... – пачаў сварыцца бацька, але я яго спыніла:

– Татачка, няўжо не бачыш, дзядуля дрэнна сябе адчувае, яму патрэбна гарбата з малінавым варэннем.

Бацька неахвотна пайшоў на кухню. Дзед Мароз распрануўся, зняў валёнкі.

– Ну, дачушка, вядзі госця за стол, – скамандаваў тата.

– А ты як? – запыталася я.

У гэты момант у зале прагучаў воклік каментатара: «Го-о-л!», і тата без тлумачэнняў знік.

– Тады будзем частавацца пячэннем самі. А камусьці трэба і малінавым варэннем падлячыцца, – сказала я госцю і адпіла крышачку гарбаты з кубка.

Праз некалькі хвілін Дзед Мароз ажывіўся, ягоныя шчокі паружавелі.

– Як цябе клічуць, дзяўчынка? – толькі цяпер чараўнік узгадаў, што са мной трэба пазнаёміцца.

– Маша, – адказала я.

– А колькі табе год?

– Восем.

– Вялікая! – бадзёра выгукнуў дзядуля. – З табой ужо можна дзяліцца сакрэтамі.

– Ага, – узрадавалася я. – А яны ў вас ёсць?

– Хапае. Напрыклад, я ўсім нясу свята ў дом, а сам у душы няшчасны. За цэлы дзень так находзішся, нават і на хвілінку не прысядзеш.

– Дзядуля, я чула ў адной праграме, што шчаслівы чалавек той, які рэалізуе сябе і дасягае пастаўленай мэты.

– Згодны. А ты вельмі разумная дзяўчынка! Якія мары ў цябе?

– Я мару шмат пра што. Напрыклад, я б з задавальненнем пабывала ў казачным сонечным горадзе, дзе жывуць маленькія чалавечкі. З радасцю злётала б з Нязнайкам на Месяц. Мне было б добра і ў Прастаквашына. Вядома, там давялося б рыхтаваць сена і даіць карову. Але ў гэтым мне дапамагаў бы кот Матроскін.

– А ты фантазёрка, – заўважыў госць.

– О, прыдумляць – гэта маё. Тата часам маме так і кажа: «Зноў наша Маша байкі распавядае». Я не звяртаю на гэта ўвагі. Калі бацькоў няма дома, а за мной прыглядае суседка, бабуля Аня, дастаю з шафы маміны сукенкі і прымяраю іх. Потым бяру памаду і спрабую пафарбаваць сабе вусны. Бабуля глядзіць на мяне і ўсміхаецца. Кажа, што і яна ў дзяцінстве была гэткая. За дзесяць хвілін да прыходу бацькоў мы наводзім у кватэры парадак.

Я хацела расказаць госцю яшчэ адну гісторыю, але якраз дадому вярнулася мама.

– У вас тут сапраўднае свята, – здзівілася яна, зайшоўшы на кухню. – А дзе Снягурачка? І тата?

– Унучка Дзеда Мароза захварэла, а бацька глядзіць футбол.

У гэты час з залы пачулася знаёмае «го-о-л», а яшчэ праз хвіліну бацька з'явіўся на кухні.

– Нашы перамаглі, «2:0», – сказаў ён з радасцю ў голасе і сеў за стол.

Ва ўсіх былі кубкі з гарбатай, а таксама па кавалачку торта, які мама толькі што прынесла.

– З надыходзячым! Шчасця вашаму дому! – прамовіў Дзед Мароз. – Ведаеце, каб мары ў наступным годзе спраўдзіліся, трэба дакрануцца да маёй чароўнай барады, – прапанаваў госць.

– Гэта мы з ахвотай, – згадзілася маці і першай пацягнулася да бялюткай дзядулінай барады.

Потым тое самае зрабіла я. Апошнім быў тата. Ён, мусіць, перастараўся, бо моцна ўхапіўся за бараду.

– Вы, мабыць, вельмі моцна хочаце, каб жаданне здзейснілася? – усміхнуўся госць.

Дапіўшы гарбату, Дзед Мароз падняўся і пачаў збірацца. І ўжо на парозе дзядуля ўспомніў:

– Я ж забыўся цябе павіншаваць!

Ён дастаў з меха белага мядзведзя і ўручыў яго мне.

– Прыходзь да нас у наступным годзе з унучкай, дзядуля. Калі яна зноў будзе хворай, мы яе хутка малінавым варэннем вылечым, – сказала я чароўнаму госцю.

– Абавязкова зазірну, – усміхнуўся дзядуля.

Мне было крыху самотна, бо не паспела расказаць усе свае таямніцы і мары чараўніку. Я сядзела маўклівая за кавалачкам недаедзенага торта разам з бацькамі. Мама, убачыўшы мой дрэнны настрой, штурханула тату:

– Маша, я чула, ты з Дзедам Марозам дзялілася сваімі марамі, можа, і нам раскажаш?

Я з недаверам паглядзела на іх. Але, заўважыўшы ў вачах інтарэс, пачала апавядаць ім і пра Нязнайку, і пра Прастаквашына, і пра сонечны горад.

Бацькі ж у адказ сталі ўспамінаць свае дзіцячыя мары. Мы смяяліся, весяліліся. А я думала, што мая мара пачала ўжо здзяйсняцца...

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*

Калючык

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## Сумны Панядзелак

*Казка*

Амаль заўсёды быў сумны ды нечым заклапочаны братка Панядзелак. Шэры. Непрыветны. Ні з кім не сябраваў, усё адзін ды адзін.

– І чаго ты такі нелюдзімы? – спытаў яго неяк Чацвер.

– А табе што? Хіба не ўсё роўна? – буркнуў у адказ той.

– Тады б я не пытаўся. Ну, расказвай, у чым справа. Можа, дапамагу? – прапанаваў чацвёрты дзень.

– Табе і сапраўды цікава?

– А як жа!

– Ведаеш, крыўдна вельмі, – уздыхнуў Панядзелак. – Ніхто мяне не любіць. Толькі і чую: «Ой, заўтра новы тыдзень пачынаецца. Так не хочацца на працу ісці» альбо «Даўся нам гэты панядзелак! Не паспелі азірнуцца, а ён тут як тут».

– А ты паспрабуй нешта цікавае прыдумаць, – параіў Чацвер. – Тады да цябе зусім па-іншаму будуць ставіцца. Фантазіі хопіць?

– Яшчэ як! – узрадаваўся Панядзелак. – Дзякуй табе, братка!

Пасля гэтай размовы ён перавёў стрэлкі гадзінніка на 60 хвілін назад. Вой, што было... Дзеці спазніліся ў школу, дарослыя – на працу.

– Затое ўсе выспаліся! – радаваўся Панядзелак.

У наступны раз прыдумаў яшчэ лепш: замест будзільніка праспяваў голасам салаўя. Уяўляеце сабе? У снежні – ды птушыныя спевы! Вядома ж, усе заслухаліся. І зноў спазніліся хто куды.

– Але салаўя паслухалі! – не здаваўся хітрун-Панядзелак.

На трэці раз ён збудаваў у небе зорныя масточкі. Зачараваныя, баючыся паварухнуцца, людзі з захапленнем назіралі невядомую з'яву. І зноў забыліся на тое, што спяшаліся.

– Затое дакрануліся да чароўнага, – не пераставаў Панядзелак.

Паклікаў яго да сябе бацька Тыдзень:

– Ты навошта так робіш, сынок?

– Хачу, каб мяне любілі не менш, чым астатніх, – патлумачыў Панядзелак.

– Дык хіба такім чынам?

– А ты навучы мяне, як!

І Тыдзень патлумачыў малому, што каб падабацца іншым, трэба, у першую чаргу, палюбіць самога сябе. Ахвотнікі паскардзіцца знойдуцца. Але будуць і тыя, для каго панядзелак – як пачатак новага жыцця.

Першы дзень усміхнуўся і пакінуў сваю крыўду. Ён такі, які ёсць!

Прытрымлівайся і ты гэтых слушных парад, малеча!

*г. Барысаў.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




## Пераможцы конкурсу коміксаў па матывах баек Кандрата Крапівы «Пякучы аловак»

З нагоды 120-годдзя з дня нараджэння беларускага байкапісца Кандрата Крапівы вясной гэтага года РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» і рэдакцыя часопіса «Вожык» распачалі конкурс коміксаў «Пякучы аловак». У апошніх чыслах лістапада збор работ быў завершаны, а значыць, надышоў час абвясціць пераможцаў.

Усяго ўдзел у конкурсе прынялі больш за шэсцьдзясят жадаючых, геаграфія конкурсу ахапіла ўсю Беларусь, найбольш актыўна праявілі сябе ўдзельнікі з Міншчыны, Віцебшчыны і Гомельшчыны. У агульным было праілюстравана шаснаццаць баек Кандрата Крапівы: «Дзед і баба», «Ганарысты парсюк», «Дыпламаваны баран», «Мода», «Казёл», «Саманадзейны конь», «Пажар», «Дэкрэт», «Мурашка і Жук», «Дзіця, Вожык і Змяя», «Сава, Асёл ды Сонца», «Індык», «Каршун і Цецярук», «Поп і Папугай», «Ліслівае цяля», «Далікатныя парасяты».

Члены журы вылучылі наступную тройку пераможцаў:

**1 месца** – **Анастасія Скарко** (байка «Дзед і баба», «Вожык» №12, 2016 г.);
**2 месца** – **Ніна Бірыла** (байка «Ганарысты парсюк», «Вожык» № 9, 2016 г.);
**3 месца** – **Наталля Кабякова** (байка «Дыпламаваны баран», «Вожык» № 8, 2016 г.);

Пераможцы конкурсу атрымаюць дыпломы і каштоўныя прызы.

Таксама арганізатарамі вырашана адзначыць памятнымі падарункамі яшчэ шэраг удзельнікаў, для чаго было вылучана некалькі спецыяльных намінацый:

**«Удалая стылізацыя галоўнага героя»** – **Аліна Яфімава** (13 гадоў), г. Пінск;
**«Добрая дэталізацыя персанажаў»** – **Юліяна Шэлемет** (13 гадоў), г. Фаніпаль;
**«Якасная кампазіцыя кадраў, фарбавае вырашэнне»** – **Аляксандра Цябук** (16 гадоў), г. Пінск;
**«Прамалёўка эмоцый персанажаў»** – **Дзіяна Хафізава** (15 гадоў), г. Фаніпаль;
**«Арыгінальнае кампазіцыйнае вырашэнне»** – **Аляксандра Панасенкава** (16 гадоў), г. Фаніпаль;
**«Майстэрскае выкарыстанне камп'ютарных сродкаў малявання»** – **Альшэўская Ганна** (11 гадоў) і **Альшэўская Марыя** (9 гадоў), г. Гродна;
**«Выдатная прамалёўка персанажаў і кампазіцыя кадраў»** – **Бачкова Кацярына** (13 гадоў), г. Мінск;

За актыўны ўдзел у конкурсе рэдакцыя часопіса выказвае асаблівую падзяку наступным навучальным установам: *Дзіцячая школа мастацтваў №1 імя К. Цвіркі, Браслаўская сярэдняя школа № 1 імя А. М. Жданава, Гімназія № 23 г. Мінска, Вілейская гімназія № 2, Гімназія г. Чачэрска, Гімназія № 2 г. Магілёва, Сярэдняя школа № 37 г. Гродна, Сярэдняя школа № 1 г. Фаніпаля, Мінскі дзяржаўны мастацкі каледж імя А. К. Глебава.*

Калектыў рэдакцыі часопіса «Вожык» шчыра дзякуе кожнаму, хто прыняў удзел у конкурсе! Такім чынам вы не толькі праявілі свае творчыя здольнасці і падтрымалі нас, але і прынялі ўдзел у папулярызацыі творчай спадчыны выбітнага беларускага байкапісца. У наш час гэта многага каштуе. Дзякуй вам!

Заставайцеся з намі! Усяго найлепшага!

*З павагай,*
*рэдакцыя часопіса «Вожык».*






## Справядлівасць

Маці павучае маленькага Арцёмку:

– А гэтым кавалкам торта падзяліся са сваім брацікам. Толькі справядліва.

– Як гэта – «справядліва»? – пытаецца хлопчык.

– Дасі яму большы кавалак, а сабе вазьмі меншы.

Арцёмка падумаў і кажа:

– Мамачка, тады лепей аддай торт брацiку, няхай ён дзеліць справядліва!

## Мурзік

Алёшка хваліцца перад Аленкай сваім катом Мурзікам. Тая просіць:

– Паслухай, калі ў цябе такі спрытны кот, дык пазыч яго нам. Бо ў нас столькі мышэй развялося!

– Э! – не згаджаецца хлопчык і прапаноўвае: – Лепш прынясі да нас сваіх мышэй!

## Ногі

Мыючы перад сном свае ножкі, Андрэйка задаволена зазначае:

– Мамачка, як добра, што я не конь!

– Чаму? – здзіўлена пытае тая.

– Бо тады б мне прыйшлося мыць чатыры нагі... – адказвае малы.

**Сабраў Леў КАЗЛОЎ,**
*г. Мінск.*

## Чырвоны суп

– Бабуля, а ты ўмееш варыць чырвоны суп? – пытаецца маленькая Кацярынка.

– Які-які суп? – не разумее старая. – Я такога не ведаю...

– Чырвоны. Мне ён вельмі падабаецца. Мама гатуе такі, толькі рэдка. Яго яшчэ ў садку даюць...

– Можа, гэта боршч? – выказвае здагадку бабуля. – Умею, унучка, умею!

– Бабуля, дык ты раней не ведала? Бачыш, як добра, што я табе расказала!

## Быць першай

Янанка з Мікітам імчаць навыперадкі на самакатах па спартыўнай пляцоўцы. Хлопчык апярэджвае сястрычку, а тая ніяк не можа яго дагнаць і крычыць услед: «Не, я хачу быць першай!..»

Бабуля гукае малой на той канец пляцоўкі:

– Януля! Дык ты развярні самакат і едзь назад, да мяне!

Дзяўчынка разварочваецца. Тое робіць і Мікіта, але цяпер ён едзе далёка ззаду.

– Ура, цяпер я першая!.. – смяецца малая. І ўсе дарослыя побач.

**Падслухала**
**Бабуля ЗАНАТУЛЯ,**
*г. Мінск.*

## Памыліўся

Купіла сабе бабуля на кірмашы боты. Бліскучыя, прыгожыя. Дзед паглядзеў ды і кажа:

– Ну і навошта столькі грошай за іх аддала? Зараз увесь абутак недабраякасны. Яны ж табе ногі намуляюць, раз-другі абуеш ды і разваляцца.

За гаворкай уважліва сачыў малы Рыгорка.

Вечарам ён прыбег з вуліцы і адразу кінуўся расказваць:

– Ты, дзядуля, памыліўся! Дарэмна бабуліны боты так лаяў. Я ў іх з сябрам у футбол згуляў, сем галоў яму загнаў, а яны так і не разваліліся! Мазалёў таксама няма...

## Разважыў

Маці будзіць раніцаю малога Максімку ў школу. Той кажа скрозь сон:

– Вой, дык сёння ж заняткаў не будзе.

– Чаму? Настаўніца захварэла? – занепакоілася маці.

– Так! Учора на перапынку чуў, як Настасся Сяргееўна па мабільным тэлефоне талончык да доктара заказвала. Вось я і разважыў, што сёння яна не прыйдзе!

**Даслала Ірына КАРАЧУН,**
*г. Баранавічы.*



# 2017 — год Чырвонага Пеўня



*Крыжаванка*

**Па гарызанталі:**

**1.** «Водзіць з намі карагод \\ Сам мароз-... . \\ Многа казак у яго \\ І вясёлых гульняў». *З верша М. Чарняўскага*. **4.** «Тут з'явіўся Дзед-Мароз \\ І адразу — цап за нос. \\ Ну а потым, быццам жартам, \\ Ушчыкнуў за ... раптам». *З верша П. Саковіча*. **6.** Сораму — як у пеўня ... на шпорах *(прыказка)*. **10.** Металічны завостраны стрыжань. **11.** Партыя ў тэніс. **12.** Ахапак, вязка. **13.** «Парсюк наш лаецца, не дараваць клянецца: \\ — І месца мокрага, — крычыць, — не застанецца! \\ Ты мой свінячы ... закрануў!» *З байкі К. Крапівы*. **15.** Мялі, ... , цяпер твой час *(прыказка)*. **19.** Лічыцца, што не вярнуць яе да Новага года — дрэнная прыкмета. **22.** Зімой гэтая жывёлінка паглыбляецца ў спячку, але аднайменны часопіс працягвае выходзіць. **23.** «Над зямлёй зардзіць ... \\ Пасля бураў, ліхалеццяў». *З верша Я. Купалы*. **24.** Інструмент, якім зручна памераць вышыню навагодняй ёлкі. **25.** Закруглены шрыфт. **26.** Бойфрэнд снежнай бабы. **27.** Той, хто радуе публіку са сцэны сваімі спевамі. **28.** Добрым людзям — мір, а шалёнцам — галавой у ... *(прыказка)*.

**Па вертыкалі:**

**2.** «Заяц шэры, \\ Заяц — ... \\ Да зімы пашыў кажух». *З верша Р. Барадуліна*. **3.** Нашыўка з тонкай скуры, сукна або замшы на кавалерыйскіх штанах у месцах, якія датыкаюцца да сядла пры яздзе. **5.** ... нікому не шкодзіць *(японская прыказка)*. **7.** «Адно струной басоваю ... \\ На ўзгорку пад вятрыскаю гудзе». *З верша Г. Бураўкіна*. **8.** «З белым снегам на галінках \\ І да нас прыйшла ...». *З верша Ф. Ляшонка*. **9.** Рыбы ды зайцы завядуць у ... *(прыказка)*. **14.** «...-пушыначкі \\ Ляцелі матылькамі». *З верша Зм. Бядулі*. **16.** Урачыстае абяцанне захоўваць якія-небудзь абавязацельствы. **17.** Благая слава. **18.** «Хай бульба родзіць, \\ Хай чарка ходзіць, \\ Хай патэльня трашчыць, \\ На ёй ... пішчыць» *(калядная прыпеўка)*. **19.** Не пакрылі ..., не пакрые і Раство *(прыказка)*. **20.** Выхадцы з адной вёскі ці горада ў адносінах адзін да аднаго. **21.** Зімовы сорт яблыкаў.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

**Адказы:**

**Па гарызанталі:**
**1.** Дзядуля. **4.** Вуха. **6.** Маса. **10.** Лом. **11.** Сет. **12.** Ношка. **13.** Гонар. **15.** Ананас. **19.** Пазыка. **22.** Вожык. **23.** Вясёлка. **24.** Рулетка. **25.** Рандо. **26.** Снегавік. **27.** Вакаліст. **28.** Вір.

**Па вертыкалі:**
**2.** Зух. **3.** Лея. **5.** Усмешка. **7.** Сасонка. **8.** Ялінка. **9.** Старцы. **14.** Сняжыначкі. **16.** Прысяга. **17.** Нясла. **18.** Сквара. **19.** Пакровы. **20.** Землякі. **21.** Каштэля.

## Мімаходзь

Жыццё даецца толькі адзін раз, а ўдаецца і ўвогуле не заўсёды.

Як можна ведаць, што патрэбна народу, калі кожны асобны чалавек не вызначыўся, што неабходна яму?

Дзеці ставяць бацькоў у тупік, а тыя ставяць іх у куток.

Калі нап'ешся да беспамяцтва, ёсць пра што ўспомніць.

Муж патрэбны для перасоўвання мэблі, палюбоўнік — для яе выкарыстання.

Зламысна не аплачваеце электраэнергію? Хутка вас чакае канец свету!

Хто гаворыць усё, што думае, не разумее, аб чым кажа.

Як наставяць рогі — міжволі чортам станеш.

Калі кажуць, што чалавек з характарам, часцей за ўсё маецца на ўвазе яго агіднасць.

Хто смяецца апошнім? Я за вамі!

**Даслаў Анатоль БАРЫСАГЛЕБСКІ,**
*г. Гомель.*

## Спарышы для душы

Толькі дабягаю да вакзала –
Электрычка... дулю паказала.

– Спячы пірог! Чаго ў нас нестае?
– Ды ёсць усё, апроч дабавак «Е».

Толькі люстэрка і вагі дакладныя, мусіць,
Праўду гавораць, ніколі нікому не хлусяць.

Упэўнены: вачыма
Усё сказаць магчыма.

Маю шыю лепшую на свеце:
На ёй – маці, цешча, жонка, дзеці!

Санлівую жонку няцяжка падняць,
Калі чужым іменем раптам назваць.

Да вечара ела, да раніцы спала
І мужа штурхала: чаму грошай мала?

Напэўна, усе зразумелі даўно:
Як жонка – піла, то мужык – бервяно!

Мужоў перарабіць жанчыны хочуць спрэс,
Як толькі атрымаецца – губляюць інтарэс.

Растуць ад шыі ногі ў чараўніц,
Пра гэта сведчыць даўжыня спадніц.

Пілюляў мяшок і мікстур батарэю
За месяц я з'еў, ды ўсё ж не здаравею...

Запахла смачна шашлыком з барана!
Прайду яшчэ разок ля рэстарана.

З'еў боршч і ўжо глынуў катлету пятую,
А скардзіцца на слабасць і апатыю.

Як робіш нешта абыякава,
Тады лічы, што справа – плакала.

Хоць і высока ўзнесены кар'ерай,
Усё-ткі асцярожна шлях свой мерай!

**Алесь КОРНЕЎ,**
*г. Баранавічы.*

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 12 (1539), 2016 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*
Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.
Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.
Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ
Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ
Падпісана да друку 05.12.2016. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,36. Тыраж 966 экз. Заказ .
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.

# Дзед і баба

комікс па матывах байкі Кандрата Крапівы




Комікс Анастасіі СКАРКО.

# Навагоднія зярняткі


















Зярняткі раскідалі Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



*Зіма развесіла карункі...*
*Рабіце блізкім падарункі!*
*Для дзетак – цацкі ды ірыскі,*
*Сябрам і сваякам – падпіску.*
*І на сябе не забывайце:*
*Падпіску хутка афармляйце!*

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844,**

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**



**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2017 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 3,80 рублёў,
індэкс 01380, цана 3,00 рублёў,
індэкс 748442, цана 10,80 рублёў,
індэкс 01381, цана 8,60 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

9 770132 595002 16012